Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

27 сакавіка — 2 красавіка 1999 года
№ 13 (171)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Будзе ў івацэвічах аўтазапраўка

Летась наша газета неаднаразова пісала аб тым, што запланаванае самой дзяржавай будаўніцтва кантэйнернай аўтазаправачнай станцыі ў Івацэвічах па волі мясцовых уладаў было заблакіравана. Валакіта з дазволам будаўніцтва станцыі цягнулася больш за год. Аб гэтым пісалася ў рэспубліканскім друку, гаварылася па радыё. І вось лёд крануўся. На паўночна-заходняй ускраіне Івацэвічаў, непадалёк ад паваротки на вёску Стайкі, будаўнікі ПМК-2, з якімі дагавор быў заключаны яшчэ паўтара года таму, падрыхтавалі пляцоўку, вядуць земляныя работы. Доўгачаканае аўтааматарамі горада будаўніцтва АЗС, якая належыць Баранавіцкай нафтабазе, нарэшце, пачалося .

### Спекулююць на жаданні знайсці работу

Менавіта жаданне знайсці нармальна аплачваемую работу (вядома, не ў памерах 20—30 даляраў у месяц) падвяло групу жыхароў г. Івацэвічы. У пачатку сакавіка яны сустрэліся з прыезджым чалавекам, які прапанаваў ім паехаць на заробкі ў Маскву. Абяцаў, што ў месяц людзі будуць атрымліваць па 800 даляраў.

Гэта сума, напэўна, так засціла вочы і вушы прагнучых работы, што яны па-за ўвагай пакінулі многія непаразуменні ў тлумачэннях наймальніка. Напрыклад, фірма, куды вербаваў ён мужчын, была нібы беларуска-нямецкай.А будавала дамы ў Маскве. А офіс яе нібы знаходзіўся ў Брэсце, куды наймальнік-аферыст прапанаваў завезці купленыя ў Маскву білеты, каб вярнуць людзям іх кошт. У выніку — прапалі і білеты, і грошы, за якія іх купілі, бо аферыст іх адразу ж здаў у касу і ўсю суму паклаў сабе ў кішэню.

Няма сумнення, што аферыста міліцыя знойдзе, бо вельмі ж ён "працуе" нахабна і адкрыта. А вось ці знойдуць работу падманутыя ім?

## 28 САКАВІКА — ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ГАНДЛЮ, БЫТАВОГА АБСЛУГОЎВАННЯ НАСЕЛЬНІЦТВА І ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ



*З 1980 года працуе ў Гошчаўскім магазіне гаспадарчых тавараў Надзея Уладзіміраўна Лунь. Яна пастаянна дбае аб пашырэнні асартыменту, намагаецца задаволіць просьбу таго ці іншага пакупніка. Матэрыяльнае становішча сялян цяпер не надта зайздроснае, да набыцця кожнай рэчы вяскоўцы ставяцца прыдзірліва, узважана. Надзеі Уладзіміраўне хапае цярпення пагутарыць з людзьмі, расказаць ім аб вартасцях таго ці іншага тавару. Старанне і добразычлівасць работніка прылаўка даюць свой плён: штомесячная выручка ад рэалізаваных тавараў складае прыкладна 450 мільёнаў рублёў.*

*Каб тавары не залежваліся ў краме, Надзея Уладзіміраўна ахвотна выязджае на Івацэвіцкі рынак, што дапамагае прыкметна выканаць дакладзены план.*

*Надзея Уладзіміраўна гадуе двух дачушак.*

*На здымку: Н. У. Лунь.*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

БЯРОЗА

### ЧЛЕН КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА? ПІШЫ ЗАЯВУ НА ЗВАЛЬНЕННЕ З РАБОТЫ!

22 сакавіка начальніца Бярозаўскага райсабеса сп. Н. С. Мядзведзь доўгі час распякала сацыяльную работніцу па надомнаму абслугоўванню сп. Таццяну Аліхвер. Справа ў тым, што Беларускі жаночы рух "Адраджэнне Айчыны" вылучыў сп. Аліхвер у раённую камісію па выбарах прэзідэнта. Начальніца ставіла пытанне так: ці сп. Таццяна піша заяву аб тым, што выходзіць са складу камісіі, ці з першага красавіка яна будзе звольненая. Сп. Аліхвер — пенсіянерка, працуе на паўстаўкі па кантракту (кантракт да 01.01.2000 г.) Па працы вымоваў не мае, а наадварот лічыцца адной з лепшых работніцаў. Жанчына не паддалася на націск, аб чым і заявіла сваёй начальніцы. У дадатак той пачалі званіць бабулькі, якіх абслугоўвае Таццяна Міхайлаўна, абураныя тым, што яе збіраюцца звольніць. Адчуўшы такі адпор, сп. Мядзведзь патрохі пайшла на папятную.

### Горад папрыгажэе

З надыходам цёплых веснавых дзён у Белаазёрску распачнецца кампанія па добраўпарадкаванні. Гарадскія ўлады плануюць сёлета капітальна адрамантаваць вуліцы Леніна, Энергетыкаў і Будаўнікоў, завяршыць будаўнічыя работы на чыгуначным пераходзе ля фабрыкі "Белкельме".

Новыя рысы з'явяцца ў аблічы дзіцячага парка. Тут плануецца абсталяваць новыя атракцыёны, зрабіць добраўпарадкаванне і абнавіць спартыўнае абсталяванне.

Не будуць абдзелены ўвагай вуліцы Салаўіная, Кветкавая, Каліноўскага і Далёкая, якія знаходзяцца ў зоне прыватнага сектара: мяркуецца правесці іх добраўпарадкаванне і электрыфікацыю.

Горад упрыгожаць новыя дзіцячыя і спартыўныя пляцоўкі, пасаджаныя дрэвы і кустоўе, заасфальтаваныя пешаходныя дарожкі, закладзены пітомнік туі і клёна.

### Супраць аб'яднання Беларусі з Расіяй

Раённая рада БНФ атрымала дазвол на правядзенне 28 сакавіка пікету, прысвечанаму 81-ым угодкам абвяшчэння незалежнасці БНР, супраць спробаў аб'яднання Беларусі з Расіяй (краінай, дзе пры неверагодных багацсях карумпіраваных чыноўнікаў ад голаду паміраюць простыя людзі) і супраць падзення ўзроўню жыцця ў Беларусі.

Пікет адбудзецца на гарадскім стадыёне з 9 да 12 гадзін.

БАРАНАВІЧЫ

### Гости из Китая

Четыре дня в Барановичах гостила делегация из китайского города-побратима Чиби. В составе делегации были такие высокопоставленные чиновники как заместитель мэра, советник правительства, директор больницы.

Гости посетили профилакторий отделения железной дороги, где работают китайские врачи, побывали в краеведческом музее и детской музыкальной школе № 1. Также зарубежные гости встретились с председателем исполнительного комитета М. Я. Павловым. В ходе встречи мэром города не раз высказывалась мысль о более тесном экономическом сотрудничестве городов. В свою очередь китайские гости пригласили Михаила Яковлевича посетить город Чиби для подписания официального договора о партнерском сотрудничестве. В Китай также были приглашены один высококвалифицированный врач и одна медсестра для работы в местной больнице.

### Успела даже мышь поселиться

20 марта в дежурную часть Барановичского РОВД поступило сообщение: вблизи дачного поселка Лесино обнаружен труп мужчины. На вид ему 50 лет, худощавого телосложения, рост 180-185. Был одет в темно-синюю удлиненную куртку с капюшоном, коричневый пиджак, черные брюки, коричневые сапоги 29 р. Во внутреннем кармане куртки обнаружен футляр красного цвета, в котором находились очки с увеличительными линзами.

Волосяной покров на голове мужчины отсутствует, видны следы укусов диких животных, отсутствуют также мягкие ткани головы, шеи. Предположительно, труп пролежал в лесу месяц-полтора. В кости ноги успела поселиться мышь. Смерть, скорее всего, насильственная. Прокуратура и РОВД ведут следствие.

### Авто не угнали, но куртку сняли

Совершенно спокойно житель Барановичей Б. пригнал машину в гараж. Оказалось, что его здесь уже ждали четверо неизвестных. Под угрозой пистолета они попытались угнать его автомобиль, но тот, словно чувствуя неладное, взял да и не завелся. Бандиты сняли с Б. кожаную куртку...

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. Кажадуб, Л. Цалуйка (Івацэвічы), А. Лаўранюк, С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны), Г. Строцкая, М. Кулікова (Баранавічы).**

ПРУЖАНЫ

### Заявка на пикет

Местная рада Белорусского Народного Фронта подала заявку на проведение митинга, посвященного 81-ой годовщине образования БНР. Раньше местные власти на такие мероприятия давали разрешение в редких случаях и на задворках города, на местном стадионе. Посмотрим, изменится ли что-нибудь теперь, ведь с недавних пор в городе "вертикаль" возглавляет новый человек.

### Спасение утопающих — дело рук самих утопающих?

Почти так можно описать ситуацию, в которую попали жители дома № 12 по ул. Парковой. Уже в течение нескольких лет утопают обитатели этого дома в дождевой воде, которая льется с потолка прямо на голову. В квартирах расставлены всевозможные банки, тазики, вёдра для приема воды сверху. Люди уже стараются не обращать внимание на почерневшие от сырости стены, на дымящуюся проводку. Каждую минуту они подвергаются опасности поражения электрическим током. Большая влажность и постоянная сырость провоцируют постоянные простудные заболевания. А все дело в некачественно отремонтированной крыше, которая, как решето, пропускает и талый снег, и дождь. Многочисленные обращения во всевозможные инстанции не дали никакого результата. Люди также, как и раньше, живут в невыносимых условиях. Уважаемые господа-чиновники, спасите утопающих!

### Вясна. Плывуць...машыны



*Дзякуй Богу, вялікай паводкі ў нашым рэгіёне пакуль не наглядаецца. Але непрыемнасцей ад вады хапае... Фота А. ГАНЧУКА (зроблена ў Бярозаўскім раёне).*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Либералы отказались

***Высший Совет и Центральный Комитет Либерально-демократической партии приняли совместное решение о прекращении участия в так называемых выборах в местные Советы, назначенных на 4 апреля 1999 года.***

Напоминаем, что партия выставила 1226 кандидатов в депутаты разных уровней. В таких городах, как Минск, Витебск, Барановичи, Брест и других, кандидаты были выставлены во все избирательные округа.

Проводимые выборы не только фальшивы по своей сути, говорится в заявлении Высшего Совета и ЦК ЛДП , они фальсифицированы уже в самом начале их проведения. Нарушений и грубого беззакония, откровенного издевательства над людьми, пытавшимися общаться с избирателями, над их конституционным правом невозможно перечислить.

Высший Совет и Центральный Комитет партии констатируют, что в настоящее время проведение любых выборов в Республике Беларусь при существующем Центризбиркоме и исполнительной власти невозможно. Правовой и конституционный беспредел в Республике Беларусь достигли своего апогея.

## Новы месяц — новыя пенсіі

***Паводле інфармацыі Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва, у красавіку зноў будзе зроблены пераразлік працоўных пенсій.***

Падставай для пераразліку сталі звесткі аб росце заробкаў рабочых і служачых краіны ў лютым, прычым, па словах кіраўніка аддзела пенсійнага забеспячэння Валянціны Каралёвай, у наступным месяцы працоўныя пенсіі павысяцца прыкладна на 10 працэнтаў. Адпаведна памер "сярэдні" пенсіі складзе 4 млн. 650 тыс., максімальнай — 5 млн. 693 тыс., а мінімальнай — 1 млн. 972 тыс. рублёў.

## Еўрапарламент патрабуе правесці прэзідэнцкія выбары

***Па ініцыятыве спецыяльнага дакладчыка па Беларусі Элізабет Шродтэр, Еўрапейскі парламент прыняў рэзалюцыю пра сітуацыю ў нашай краіне.***

У дакуменце Еўрапарламент адзначае, што стварэнні ў 1994 годзе дэмакратычныя структуры былі ліквідаваныя прэзідэнтам Лукашэнкам пасля спрэчнага рэферэндуму, легітымнасць якога не прызнана большасцю заходніх краінаў. Прэзідэнт Лукашэнка змяніў Канстытуцыю, распусціў легітымны парламент і прадоўжыў тэрмін сваіх паўнамоцтваў, якія, згодна з Канстытуцыяй, заканчваюцца 20 ліпеня 1999 года.

Еўрапарламент нагадвае, што апазіцыя, заходнія краіны і міжнародныя арганізацыі не прызнаюць новую рэдакцыю Канстытуцыі. Лідэры беларускай апазіцыі прызначылі дату прэзідэнцкіх выбараў на 16 мая. У адказ беларуская ўлады затрымалі і асудзілі 17 членаў Цэнтрвыбаркама, а таксама вынеслі папярэджанні газетам за публікацыю матэрыялаў аб выбарах. Далей Еўрапарламент выказвае шкадаванне накошт "пастаяннага пагаршэння сітуацыі з правамі чалавека падчас праўлення прэзідэнта Лукашэнкі, што ставіць Беларусь у адзін рад з іншымі грубымі парушальнікамі правоў чалавека". У рэзалюцыі звяртаецца таксама ўвага на абмежаванні свабоды слова ў нашай краіне, дзе апазіцыйныя палітыкі пазбаўленыя доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, што "перашкаджае адкрытым дыскусіям і робіць немагчымым правядзенне свабодных і сумленных выбараў".

Улічваючы ўсе пералічаныя акалічнасці, Еўрапарламент патрабуе ад прэзідэнта Лукашэнкі "адназначна дэмакратыю, забяспечыць захаванне правоў чалавека, правесці свабодныя і справядлівыя прэзідэнцкія выбары да заканчэння тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў".

## Лукашэнку запрасілі ў Цэнтрвыбаркам

***Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Беларусі прызначыла на 31 сакавіка ўрачыстую цырымонію рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты.***

Яе плануецца правесці ў Мінску ў гатэльным комплексе "Кастрычніцкі". Як паведамлялася ўжо, цяпер завяршаецца збор подпісаў за двух кандыдатаў у прэзідэнты — Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра. На ўрачыстую цырымонію Цэнтрвыбаркам запрасіў прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса ў нашай краіне, кіраўнікоў місіяў ААН і АБСЕ, а таксама дзеючага прэзідэнта, тэрмін паўнамоцтваў якога завершыцца 20 ліпеня гэтага года.

## Хутка "летні" час

Служба часу Дзяржстандарта паведамляе, што ў адпаведнасці з Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 317 ад 13 мая 1996 г. "Аб змяненні парадку вылічэння часу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь", у рэспубліцы 28 сакавіка 1999 года ў 2 гадзіны будзе ажыццёўлены пераход на "летні" час пераводам стрэлак гадзіннікаў на адну гадзіну наперад.

*(БелаПАН).*

ЛІСТ З НЯВОЛІ

# ВЫСТАЯЦЬ ПАД НАЦІСКАМ

Ужо два гады знаходзіцца за кратамі дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, былы дырэктар гандлёва-прамысловай фірмы "Івацэвічы" Уладзімір Кудзінаў. Мяркуючы па пісьмах, дух яго не зломлены няволяй, а ўсе думкі і памкненні накіраваны ў будучыню. Вольную, вядома, будучыню, у якой галоўнае месца будзе адведзена верхавенству закона, свабодзе ва ўсіх сферах матэрыяльнай і духоўнай дзейнасці. Вось вытрымка з апошняга пісьма ў "Газету для вас":



— Ніхто з сённяшніх чыноўнікаў проста так свой дабрабыт, створаны за кошт іншых, сваю ўладу не аддасць. Але ўжо стан эканомікі на іх не працуе, бо яна разбурана. Змены ва ўнутранай і знешняй палітыцы нашай дзяржавы непазбежныя. Другога проста не дадзена. Вядома, шмат што ў гэтым працэсе залежыць ад Расіі, яе ўзаемаадносінаў з Захадам.

І адбудуцца перамены хутка, бо ўсім бачна, што працэс гэты ўжо пачаўся. Вядома, будзе цяжка, але мы павінны ведаць, што жыццё ў гэтым годзе не заканчваецца, а абавязкова будзе працягвацца. Самае галоўнае, каб у кожнага чалавека сумленне было чыстае перад сваімі дзецьмі і ўнукамі, каб кожны мог сказаць, што ён не падманваў і не абкрадваў народ.

Натуральна, што сёння многім чыноўнікам не падабаецца, што "Газета для вас" дае інфармацыю аб рэальным, а не прыдуманым жыцці, але час камуністычнай іл жывай ідэалогіі праходзіць. Думаю, што ў XXI стагоддзі грамадства пазбавіцца ад камуністычнай павуціны.

Радуе, што падрастае маладое пакаленне, якое ўжо нельга падмануць камуністычнай ідэалогіяй. Іх, маладых, ніхто ўжо не прымусіць працаваць у калгасах і на прадпрыемствах за капейкі альбо наогул бясплатна. Гэта галоўнае, таму што станаўленне грамадства на дэмакратычнай аснове магчыма толькі пры актыўнай падтрымцы моладзі.

Пройдзе некаторы час, і я таксама буду на свабодзе, буду ісці па шляху стварэння дэмакратычнага грамадства. Але сёння нам усім трэба выстаяць пад націскам рэжыму...

ГОНАР ФІРМЫ

## Запрашае "КОДАК"

Гэтая камерцыйная фірма, на чале якой стаіць Анатоль Багушэвіч, размяшчаецца ў Пружанах у мясцовым універмагу. Як сведчыць сама назва, тут займаюцца апрацоўкай фотаплёнкі і вырабам фотакартак любых памераў. Вядома, што толькі ад фотаапарата "Кодак".

Тым наведвальнікам, што купілі плёнку ў гэтай фірме і зрабілі здымкі, плёнка праяўляецца бясплатна. Усе паслугі тут значна танней, чым у дзяржаўных фотаатэлье. Але, бадай, самае галоўнае ў "Кодаку" тое, што тут якасна і ў самы кароткі тэрмін (на працягу сутак) выконваюць той ці іншы заказ.





Абслугоўванне, як кажуць, на самым высокім узроўні. Яго забяспечваюць маладыя дзяўчаты, ветлівыя і прыгожыя, заўсёды з усмешкай на твары Наталля Ліцягіна (на левым здымку) і Валянціна Вакула (на правым здымку). Штодня яны абслугоўваюць каля паўсотні сваіх кліентаў. Усе яны задаволены добрым абслугоўваннем і асабліва прымальнымі на сённяшні дзень цэнамі на паслугі. Неаднаразовыя падзякі ад наведвальнікаў — сведчанне таго, што гэтая фірма патрэбна людзям. І гараджанам, і вяскоўцам.

21 сакавіка фірме "Кодак" споўнілася тры гады. Час існавання не вельмі вялікі, але для яе — гэта час станаўлення, час пошукаў новых форм абслугоўвання сваіх кліентаў. Многае ўжо ўдалося работнікам фірмы. Уперадзе, думаецца, не самы лёгкі час. І прыцягнуць да сябе яшчэ больш наведвальнікаў — задача найпершая і важная.

Іх тут чакаюць з нецярплівасцю.

*С. РЫГОРАЎ.*

*г. Пружаны.*

СЕМІНАРЫ

## Правы чалавека: тэорыя і практыка

Беларускі Хельсінскі камітэт правёў у Баранавічах семінар на тэму "Правы чалавека: тэорыя і практыка". Старшыня БХК Таццяна Працько і яе калегі Валерый Костка і Святлана Мартаўская асвятлілі розныя аспекты праблем, звязаных з правамі і свабодамі чалавека. Старшыня Баранавіцкага рэгіянальнага аддзялення БХК Валерый Болбат расказаў аб дзейнасці сваёй праваабарончай структуры.

Удзельнікі семінара, якія прыехалі з Ляхавіцкага, Ганцавіцкага, Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Слонімскага раёнаў, атрымалі інфармацыйныя матэрыялы БХК. Бралі ўдзел у агульнай дыскусіі, якая яшчэ раз паказала важнасць і патрэбнасць праваабарончай работы сярод насельніцтва. Размова аб правах і свабодах перайшла на размову пра палітыку. Выступоўцы з жалем гаварылі, што дзверы, якія былі адчыніліся перад намі, пакрыху зачыняюцца, засталася ўжо вузенькая шчылінка ды і тая, падобна, хутка знікне, бо наша дэмакратыя вяне, як кветка без вады.

*Л. САШЫН.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 25.03.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 300—370 | 360—460 | 350—400 | 350—400 |
| Сала салёнае | 360 | 380 | 380 | 320—360 |
| Алей (1 л) | 315—380 | 280—380 | 280—320 | 310—390 |
| Яйкі | 90—110 | 90—120 | 100—110 | 90—110 |
| Малако (3 л) | 60 | 80 | 50—80 | 50—60 |
| Тварог | 70 | 80 | 80 | 50—70 |
| Масла сметанк. | 320 | 320 | 320 | 270—320 |
| Цыбуля рэпч. | 135 | 140—160 | 150 | 130—160 |
| Капуста | 70—80 | 70—80 | 50—80 | 40—60 |
| Бульба | 30 | 30 | 30 | 20—30 |
| Морква | 70 | 60—80 | 50 | 35—40 |
| Часнок | 400 | 500 | 400 | 300—350 |
| Яблыкі | 100—170 | 170—200 | 150—180 | 110—170 |
| Лімоны | 400 | 400 | 400 | 380—410 |
| Апельсіны | 320—360 | 380 | 380 | 320—340 |
| Бананы | 360 | 380 | 360—380 | 310—330 |
| Грэчка | 140 | 140 | 130 | 145 |
| Макар. вырабы | 110 | 90—110 | 110 | 100—130 |
| Рыс | 175 | 170 | 180 | 150—170 |
| Цукар | 135 | 150 | 140 | 140—170 |
| Мёд | 800 | 800 | 800 | 800 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**

**(у тысячах рублёў)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 345 | 360 | 345 | 370 | 340 | 350 | 330 | 360 |
| 1 дойчмарка | 175 | 195 | 175 | 195 | 175 | 195 | 175 | 195 |
| 1 рубель Расіі | 12,5 | 13,5 | 12 | 14 | 12,5 | 13,5 | 12 | 14 |

# Резолюция Европейского Парламента о ситуации в Беларуси

Европейский Парламент

— ссылаясь на свои предыдущие резолюции по ситуации в Беларуси,

А. Принимая во внимание, что демократические структуры Беларуси, созданные в 1994 г., были упразднены президентом А. Лукашенко после спорного референдума, легитимность которого не была признана большинством западных государств,

В. Принимая во внимание, что президент Лукашенко впоследствии изменил Конституцию, распустил легитимный парламент и продлил до 2001 года срок своих президентских полномочий, которые, согласно Конституции 1994 г., истекают 20 июля 1999 г.,

С. Принимая во внимание, что ни оппозиция, ни западные государства и международные организации не признают новую редакцию Конституции,

D. Принимая во внимание, что лидеры белорусской оппозиции назначили дату проведения президентских выборов на 16 мая 1999 г. и впоследствии чего белорусские власти задержали и осудили 17 членов оппозиционного Центрального избирательного комитета и вынесли предупреждения белорусским газетам за публикацию материалов о выборах, назначенных оппозицией,

Е. Выражая сожаление по поводу постоянного ухудшения ситуации с правами человека в Беларуси во время правления президента Лукашенко, что ставит Беларусь в один ряд со странами — грубыми нарушителями прав человека в мире,

F. Принимая во внимание усилия ОБСЕ, направленные на восстановление в этой стране демократических структур, а также недавнее предложение ОБСЕ о посредничестве в разрешении конфликта между президентом и оппозицией,

G. Отмечая, что оппозиционные политики лишены доступа к государственным печатным и электронным средствам массовой информации, что препятствует открытым дискуссиям и делает невозможным проведение действительно свободных и честных выборов, а также призыв всех демократических партий бойкотировать местные выборы, назначенные властями на апрель 1999 г.,

Н. Отмечая постоянные преследования журналистов со стороны властей, а также отсутствие демократичного закона о СМИ и ограничение свободы прессы,

I. Учитывая постоянные аресты, задержания и штрафы в отношении организаторов и участников мирных демонстраций,

1. Призывает президента Лукашенко и правительство Беларуси восстановить демократию и обеспечить соблюдение прав человека в Беларуси, особенно — свободу средств массовой информации;

2. Соответственно требует проведения свободных и справедливых президентских выборов до того, как истечет срок правления президента Лукашенко, и требует соблюдения в отношении этих выборов стандартов ОБСЕ, а также присутствия на них наблюдателей ЕС и ОБСЕ;

3. Настоятельно призывает президента Лукашенко прекратить уголовные преследования и запугивание оппозиционных сил, которые занимаются подготовкой законной кампании по выборам президента;

4. Призывает президента Лукашенко и правительство Беларуси обеспечить всем оппозиционным политическим деятелям немедленный и беспрепятственный доступ к государственным печатным и электронным средствам массовой информации;

5. Отмечает, что демократическая оппозиция бойкотирует местные выборы, что делает их недействительными;

6. Заявляет о своей полной поддержке попыток ОБСЕ, направленных на организацию диалога между президентом и оппозицией во избежание более серьезных конфликтов;

7. Призывает президента Лукашенко и правительство Беларуси гарантировать белорусским гражданам право на публичное мирное выражение протеста, прекратить произвольный арест участников и организаторов демонстраций.

● *ГОЛАС НАРОДА*

# Ці патрэбна нам ядзерная зброя?

***Апошнім часам у многіх беларускіх СМІ сталі гаварыць аб неабходнасці ўвядзення ў нашу краіну ядзернай зброі, аб тым, што наша рэспубліка павінна быць добра ўзброена, асабліва ўлічваючы тое, што ў састаў Паўночнаатлантычнага саюза ўвайшлі Польшча, Венгрыя, Чэхія. Дарэчы, ядзерная зброя яшчэ нядаўна была на тэрыторыі нашай рэспублікі, але, дзякуючы валявому рашэнню Вярхоўнага Савета, Беларусь стала бяз'ядзернай. Ды ці патрэбна нам, беларусам, ядзерная зброя? Вось як на гэтае пытанне адказалі жыхары Івацэвічаў і раёна.***



**МІКАЛАЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ:** Не разумею я, навошта нам гэтыя ядзерныя ўзбраенні. Няўжо нам мала аднаго Чарнобыля? Не такія мы ўжо багатыя, каб траціцца на ракеты. Вы паглядзіце на тое, з якой хуткасцю растуць цэны ў магазінах, у якім стане нашы калгасы і саўгасы. Кароў ледзь не гноем кормяць...



**АЛЯКСЕЙ ФЁДАРАВІЧ:** Трэба ракеты! Трэба! Паглядзіце — НАТА пад бокам. Трэба для процівагі гэтым заходнім імперыялістам. Яны ж зараз панастаўляюць ракет у Польшчы, навядуць на нас. Якое жыццё пад дулам? Калі мы, беларусы, не ўзброімся належным чынам, то нас чакаюць вельмі сумныя часы. Я сам расіянін, але нядаўна прыняў беларускае грамадзянства...

**СЯРГЕЙ** (фатаграфавацца катэгарычна адмовіўся): Ці трэба ракеты? Канешне, трэба! Пару штук. Каб засунуць у штаны таму, хто даказвае, што мы павінны ўзбройвацца. Гэта добры рэцэпт "выздараўлення" такіх ваяк. А яшчэ кажуць, што мы, беларусы, памяркоўныя, талерантныя...



**ВАЛЕРА:** Ядзерная зброя? Навошта яна нам! Я вось выхоўваю малое дзіця і лічу, што спакайней мы будзем жыць тады, калі ў Беларусі не будзе ніводнай ракеты.

Тое, што блок НАТА наблізіўся да нашых граніц, асабіста мяне не пужае. Хай набліжаецца! Калі мы, беларусы, будзем жыць у спакойнай суверэннай рэспубліцы, то ніхто нам не будзе пагражаць. Мне здаецца, што ў беларускага кіраўніцтва ёсць больш злабадзённейшыя пытанні...

**АД АЎТАРА:** Падобна на тое, што пытанне аб ядзернай зброі выклікала ў нашых суграмадзян не столькі размову "за" ці "супраць", колькі простае здзіўленне і непаразуменне. Што й зразумела. Ці мала ў шматпакутнага беларускага народа іншых праблем, акрамя размяшчэння ракет на зямлі, якая і без таго густа паліта крывёй нашых продкаў? На самой справе, чаму не галёкае на ўвесь свет кіраўніцтва Швецыі і Фінляндыі — краін, якіх НАТА абступіла ўвогуле з усіх бакоў. Ці не жадае гэтай істэрыяй сённяшняе кіраўніцтва адвесці ўвагу простага чалавека ад той багны, у якую яно завяло за пяць год?

*А. ГОРБАЧ,*
*А. ГАНЧУК (фота).*

● *ПРАШУ СЛОВА*

# Чаму дэмакратычныя сілы не ўдзельнічаюць у выбарах у мясцовыя Саветы

Да мяне, як прадстаўніка Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне", не аднойчы звярталіся з пытаннем, як БНФ адносіцца да мясцовых выбараў. Яшчэ год таму Сойм Народнага Фронту вызначыўся, што ў недэмакратычных умовах, якія склаліся ў нашай краіне пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г. (калі прадстаўнічая ўлада фактычна не мае ніякіх паўнамоцтваў і амаль поўнасцю падпарадкаваная прэзідэнцкай выканаўчай вертыкалі), удзел у любых выбарах, прызначаных прэзідэнтам, толькі паспрыяе зрабіць легітымным перад міжнароднай супольнасцю той дзяржаўны пераварот, які быў здзейснены пад выглядам рэферэндуму. Нагадаю, што згодна з рашэннем Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, галасаванне на рэферэндуме па пытанню прэзідэнцкай Канстытуцыі насіла не абавязковы, а кансультацыйны характар (пра гэта гаварыў і запіс на кожным бюлетэні рэферэндуму). Аднак прэзідэнт А. Лукашэнка сваім указам надаў яму абавязковую сілу, але ж гэта было не ў яго кампетэнцыі — ён не меў на гэта права. Цэлы шэраг парушэнняў быў засведчаны тысячамі пратаколаў аб парушэннях пры правядзенні рэферэндуму. З парушэннем Канстытуцыі быў распушчаны Вярхоўны Савет (за роспуск прагаласавала менш за 2/3 дэпутатаў). Таму дэмакратычныя сілы Беларусі, большасць заходніх еўрапейскіх краінаў не прызнаюць прэзідэнцкую Канстытуцыю 1996 г. і прызначаны прэзідэнтам (а не выбраны народам) Нацыянальны сход. Толькі Расія прызнала гэтыя вынікі рэферэндуму.

Народнаму Фронту ўдалося пераканаць прадстаўнікоў іншых дэмакратычных сіл па пытанні адносінаў да выбараў. Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі, які адбыўся 29—30 студзеня ў Мінску, канстатаваў, **"што ў Беларусі адсутнічаюць умовы для правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў: працягваюцца палітычныя рэпрэсіі, адсутнічае доступ апазіцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, парушаюцца правы чалавека, замацоўваюцца абмежаванні на ўдзел у выбарах, ствараюцца ўмовы для масавых фальсіфікацый вынікаў выбараў.**

**Закон аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў, прыняты 23 снежня 1998 года, не адпавядае міжнародным стандартам у галіне выбарчай працэдуры і мае шматлікія абмежаванні канстытуцыйнага права грамадзян Рэспублікі Беларусь выбіраць і быць выбраным.**

**Фарміраванне выбарчых камісій ажыццяўляецца выканаўчымі органамі ўлады, што стварае ўмовы для неаб'ектыўнага вырашэння праблем арганізацыі і правядзення выбараў.**

**Забараняецца вылучэнне кандыдатамі грамадзян, якія маюць адміністрацыйныя пакаранні, што не дазваляе браць удзел у выбарах грамадзянам, рэпрэсаваным за сваю палітычную і грамадскую дзейнасць.**

**Выбарчыя камісіі могуць па шматлікіх фармальных прыкметах адмовіць у рэгістрацыі або адмяніць рашэнне аб рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты.**

**Не адпавядае міжнароднаму вопыту патрабаванне 50-працэнтнай яўкі выбаршчыкаў для прызнання выбараў адбыўшыміся, што напрыканцы не дазволіць сфармаваць прадстаўнічыя органы ўлады ў буйных гарадах.**

**Максімальна спрошчаны парадак датэрміновага галасавання і галасавання па месцу знаходжання выбаршчыкаў, што стварае ўмовы для шматлікіх злоўжыванняў з боку членаў выбарчых камісій і выканаўчай улады на месцах.**

**Не вызначаны статус грамадскіх і міжнародных назіральнікаў, што робіць немагчымым прадухіленне парушэнняў заканадаўства і фальсіфікацыяў вынікаў галасавання.**

**Удзел дэмакратычных сіл у выбарах у мясцовыя Саветы на падставе такіх "законаў" не з'яўляецца магчымым".**

*С. РУСЕЦКІ,*
*старшыня Бярозаўскай раённай Рады БНФ.*

# Власть, построенная на лжи, не вечна...

Популисты и лжедемократы, которым поверили большинство избирателей, не только не "запустили" заводы и фабрики, не только не победили коррупцию и преступность, но, наоборот, поставили Беларусь на грань нищеты и вымирания.

Трудящийся народ нищий и голодный. Государственная власть, к сожалению, не защищает трудящегося, а поддерживает народившуюся буржуазию и коррумпированное чиновничество. Существующая власть загнала промышленность, сельское хозяйство, социальную сферу в тупик. Пенсии, а также зарплаты бюджетным организациям платятся за счет бесконтрольного печатания новых денежных купюр. Это лишь усугубляет ситуацию, поднимает инфляцию и страшные цены на товары, продукты, услуги.

Партия коммунистов Белорусская защищает интересы людей труда. Мы, коммунисты, не поддерживаем внутриполитический курс президента и правительства, направленный на обнищание народа. Мы не поддерживаем буржуазные реформы и президентскую форму правления. Наша цель — возрождение народовластия в лице Советов депутатов трудящихся, возвращение народу отнятых у него материальных, духовных и культурных ценностей.

Мы, коммунисты, за единение братских народов на принципах добровольности, равноправия, народовластия и социализма. Другого пути к возвращению Беларуси на путь прогрессивного развития просто нет.

Чтобы достичь этих целей, мы, члены ПКБ, активно участвуем в предстоящих выборах. Это единственная возможность изменить существующий строй конституционным путем.

Сейчас в Беларуси две коммунистические партии — ПКБ и КПБ. ПКБ создавалась в 1991 году. За нашу принципиальность власти нас притесняют, не допускают к печати, телевидению, радио. Другая партия (КПБ) состоит из горбачевской партийной номенклатуры и нынешних "вертикальщиков". КПБ безоговорочно поддерживает антинародный курс капитализации страны, полной ликвидации народовластия. КПБ образовалась в 1994—95 годах и многие вошли в эту партию, чтобы вернуться опять в свои руководящие кресла и уютные кабинеты.

Что касается меня, как кандидата в депутаты райсовета, то я веду предвыборную борьбу честно и открыто, как коммунист. Не скрываюсь под хитрой маской беспартийного. И если мне поверят избиратели, то я отдам все свои силы, опыт, знания и здоровье, чтобы защищать интересы человека труда. И я уверен, что власть, построенная на лжи и лицемерии, не вечна. Буду очень благодарен редакции "Газеты для вас", если опубликует мою статью, познакомит читателей с моей позицией как кандидата в депутаты...

*И. ЯСТРЕБОВ,*
*секретарь Ивацевичской городской организации ПКБ.*

**28 сакавіка — Дзень работнікаў гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі**

# СЯРОД ЛЮДЗЕЙ І ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ



**Шавецкая** майстэрня камбіната бытавога абслугоўвання ў Івацэвічах. Яна адзіная ў райцэнтры. Былі яшчэ нядаўна прыватныя майстэрні. Але, як прызналіся самі гаспадары, іх задушылі падаткамі і прыйшлося закрыцца.



*На здымку: работнікі шавецкай майстэрні А. М. Сідаровіч (злева) і А. Г. Свідуновіч.*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

У шавецкай майстэрні камбіната працуюць толькі два майстры, а заказаў, што прыносяць гараджане і вяскоўцы, хапіла б і на паўдзесятка спецыялістаў. Быў яшчэ нядаўна і трэці майстар, але звольніўся. Уся нагрузка зараз падае на А. Г. Свідуновіча і А. М. Сідаровіча. Каля двух дзесяткаў гадоў кожны з іх працуе па выбранай спецыяльнасці. Добра ведаюць сваю справу.

— Не кожны абутак мы бяром рамантаваць, — гаворыць Аляксей Георгіевіч Свідуновіч. — Не хапае ў нас матэрыялаў. Што ж тычыцца тэрмінаў рамонту, то яны розныя. Бываюць тэрміновыя заказы, бываюць складаныя...

— Няма ў нас стымулу для работы, — уступае ў размову Антон Мікалаевіч Сідаровіч. — У мінулым месяцы я атрымаў 1700000 рублёў зарплаты. Што гэта значыць для рабочага чалавека? За іх нават тыдзень не пракормішся. Не ведаю, як далей і быць...

— Як жа надыходзячае свята будзеце адзначаць? — пытаюся ў майстроў.

— А якое свята? — здзівіліся яны.

— Дзень работнікаў бытавога абслугоўвання, які прыпадае на апошнюю нядзелю сакавіка, — напамінаю мужчынам.

— З такой зарплатай не тое што пра свята забудзеш, — амаль у голас гавораць майстры.

Але, як бы там ні было, а свята адзначаць. Кожны па-рознаму, але абавязкова з чаркай. Так павялося ўжо ў нас здаўна.

**Камунальнікі** (работнікі раённай жыллёва-камунальнай гаспадаркі), з кім давялося сустрэцца і пагаварыць, памятаюць пра сваё свята і, канешне, маюць самыя добрыя намеры, каб паспяхова сустрэць і адзначыць яго.

Ці ўсё зроблена, што планавалася? Не, не ўсё. І самае балючае, што хвалюе людзей, гэта няякасная пітная вада ў Івацэвічах. Ужо дзесяцігоддзі ідзе размова пра будаўніцтва станцыі абезжалезвання вады. Нарэшце, будаўніцтва яе пачалі (ніжні здымак). Праўда, тэрміну заканчэння ніхто не бярэцца назваць.

Уявім сабе, што гэта станцыя сёлета ўвойдзе ў строй. Ці вырашыць яна ўсе пытанні з якасцю пітной вады? Як кажуць спецыялісты, не ў поўнай меры. Справа ў тым, што большасць водаправоднай сеткі ў горадзе пракладзена даўно. Жалезныя трубы ржавыя, іх пара мяняць. Адразу зрабіць гэта — не хапае сродкаў. Ачышчаная вада з Шыбельнай гары пайдзе ў тыя старыя трубы і зноў пачнецца старая песня. Таму, думаецца, будуемая станцыя яшчэ не зніме праблему якасці пітной вады...



Традыцыйна камунальнікі вядуць барацьбу за чысціню райцэнтра. Стараюцца падтрымліваць парадак на галоўных вуліцах горада. Прыемна прайсці, напрыклад, па вуліцы імя Леніна (верхні здымак).

Увогуле ж работнікі камунальнай гаспадаркі раёна многае робяць для таго, каб аказаць гараджанам як мага больш патрэбных паслуг. Поспехаў вам! І са святам.

*С. РЫГОРАЎ.*

● АБСУРД

# Элітныя палеткі

Ва ўтульных і шыкоўных кабінетах Брэсцкага аблвыканкама знойдзены спосаб увекавечвання імён "наиболее отличившихся руководителей хозяйств, бригадиров, рядовых работников, внёсших наибольший личный вклад в развитие сельскохозяйственного производства". Абласная "вертыкаль" рэкамендуе надаваць узорным палеткам імёны знакамітых працаўнікоў вёскі.

Мудрае пачынанне рушыла ў масы. Першай на Бярозаўшчыне ўзялася за новую справу аграфірма-калгас "Малеч". На справаздачным сходзе вырашана паставіць памятны знак на ўскраіне 167-гектарнага поля, размешчанага паміж вёскамі Чарнічнае і Давыдавічы, у гонар былога мясцовага механізатара, Героя Сацыялістычнай Працы Аляксея Аляксандравіча Цэбрука. Лічыцца, што ён на гэтым полі араў, сеяў, даглядаў пасевы і іх убіраў, хоць, па праўдзе кажучы, слаба верыцца ў такое. Вясковы трактарыст ганяе свайго сталёвага каня па палетках усёй гаспадаркі. Але не будзем прыдзірлівымі: хто цяпер памятае, дзе грукацеў трактар сельскага механізатара?

Другі памятны знак будзе ўстаноўлены на ўскрайку 70-гектарнага поля непадалёку ад вёскі Лукомер у гонар першага сакратара ЦК КПБ Пятра Міронавіча Машэрава. Калісьці ў 70-я гады на гэтае поле ступіла нага правадыра беларускіх камуністаў. Падчас жніва ён абляцаў на верталёце ўгоддзі Брэстчыны, цікаваў зверху, як ідзе бітва за ўраджай. Пралятаючы над малечскімі палямі, партыйны лідэр захацеў крыху размяцца і пагутарыць з сялянамі. Верталёт прызямліўся на тым гістарычным полі ля вёскі Лукомер і камуніст № 1, пакінуўшы кабіну, падышоў да земляробаў. Натхніўшы іх сваім палымяным словам на ўдарную працу, вялікі таварыш з Мінска зноў, як той анёл, узняўся на верталёце ў неба. Пра тую эпахальную сустрэчу цяпер будзе нагадваць памятны знак.

Каб калгаснікі ахвотней і прадукцыйней працавалі на вышэйпамянёных палях, прадугледжана 10-працэнтная надбаўка да зарплаты. Грошы, канешне, не надта вялікія, але хто ў нас адмаўляецца нават ад драбязы?

Звычайна, каб радзіла зямля, трэба яе добра ўгнойваць, па ўсіх канонах дбайнага гаспадара даглядаць. На думку ж чыноўнікаў, важней полю прысвоіць імя партыйнага верхавода і яно будзе даваць нечуваныя ўраджаі. Фантазёры ад аграпрамысловага комплексу различаюць на іменных палях атрымліваць, мусіць, па два-тры ўраджаі. Во зажывем!

Цяпер у калгасах і саўгасах не будзе безыменных палёў. А чаму толькі іх? Для такой цудоўнай справы як увекавечванне можна выкарыстаць любую дэталь ландшафту. Напрыклад, гай, балота, узгорак, лужыну... Гай імя А. Малафеева, лужына імя М. Слюнькова... Гучыць па-свежаму і па-новаму, і, што самае галоўнае, вельмі блізка да рэальнага жыцця.

*А. ЛАЎРАНЮК.*

**Бярозаўскі раён.**

ВАША ПІСЬМО

# Скупы плаціць двойчы

Так звычайна кажуць пра чалавека, які імкнецца пажывіцца за чужы кошт, не заплаціўшы ні капейкі, а папаўшыся, павінен плаціць значна больш, чым кошт украдзенага.

Гаворка пойдзе пра крадзеж электраэнергіі. У раёне ёсць выпадкі самавольнага падключэння награвальных установак для ацяплення і атрымання гарачай вады.

Летась, напрыклад, інспекцыяй энерганагляду выяўлены 61 выпадак самавольнага спажывання электрычнасці бытавымі абанентамі. Па фактах гэтых парушэнняў складзены акты. Агульны расход электраэнергіі склаў 53 тысячы кілават-гадзін. З вінаватых спагнаны кошт гэтай колькасці энергіі.

Па іншых спажыўцах, што самавольна падключылі электрычныя прыёмнікі, склалі 33 акты. Зрасходавана 69 тысяч кілават-гадзін. Прыняты ўсе меры, каб пагасіць страты.

З пачатку гэтага года ўжо ўстаноўлена 13 выпадкаў крадзяжу электраэнергіі жыхарамі раёна. Зрасходавана яе 4880 кілават-гадзін. З парушальнікаў спагнаны кошт электраэнергіі ў пяцікратным памеры.

Рэгулярна праводзяцца праверкі па выкарыстанні электрычнасці для ацяплення і гарачага водазабеспячэння, а таксама па захаванні рэжыму работы награвальных установак. Па выяўленых парушэннях складаюцца акты. Калі ўстанаўліваецца, што награвальныя ўстаноўкі ўключаліся ў гадзіны максімальнай нагрузкі, то плата бярэцца ў дзесяціразовым памеры. Варта гэтага не забываць. Дзяжурныя брыгады, у склад якіх уваходзяць работнікі электрасетак і інспекцыі энерганагляду, пастаянна праводзяць праверкі па правільным выкарыстанні электрычнай энергіі.

*А. ЮРЭВІЧ,*
*інспектар Івацэвіцкай раённай групы інспекцыі энерганагляду.*

● ОФИЦИАЛЬНО

# Не застрахуешь, не поедешь

***С 1 июля 1999 года в Беларуси вводится обязательное страхование гражданской ответственности владельцев автотранспортных средств (Декрет № 8 "Об обязательном страховании гражданской ответственности владельцев транспортных средств" и указ № 100 "О порядке и условиях проведения обязательного страхования гражданской ответственности владельцев транспортных средств"). Уже к 1 октября текущего года все отечественные владельцы транспортных средств должны быть обеспечены страховыми полисами. Цель введения обязательного страхования — защита имущественных интересов потерпевших в дорожно-транспортных происшествиях.***

В документе определен максимальный предел ответственности страховщика в размере 6 тыс. евро. В том числе за вред, причиненный жизни или здоровью потерпевшего, — 3 тыс. евро и столько же за вред, причиненный его имуществу. Размеры взносов зависят от объема двигателя и варьируются при годовой страховке от 9,4 евро до 21,2 евро. Для такси (вне зависимости от объема двигателя) взнос составляет 36,9 евро, для автобусов — 201,4 евро, тракторов — от 5,7 евро до 13,9 евро. Что касается машин, зарегистрированных в других странах и пересекающих нашу территорию транзитом, то для них средняя ставка выше примерно в 3—4 раза.

Страховые взносы рассчитаны в евро, но взимаются в белорусских рублях по курсу на момент заключения договора страхования. Сумма ущерба будет определяться также в евро, а выплата страхового возмещения будет производиться страховыми компаниями в рублях по курсу на момент выплаты. Штраф за отсутствие полиса для физических лиц составит 5 МЗП, для юридических — 15 МЗП.

К операциям по обязательному страхованию предполагается допустить негосударственных страховщиков.

Сегодня в Беларуси свыше 2 млн. владельцев автотранспортных средств, еще примерно столько же иностранных перевозчиков пересекают территорию страны ежегодно. Каждый год в Беларуси регистрируется около 15 тыс. дорожно-транспортных происшествий. До сих пор гарантированность и своевременность возмещения ущерба пострадавшим в результате ДТП зависели от того, располагает ли виновник необходимыми средствами. Очень частыми были ситуации, когда он хотя и не отрицал своей вины, но расплатиться был не в состоянии. В подобных случаях, если не имело место уголовное преступление, с виновника ДТП взыскивался определенный процент от заработной платы, что, естественно, не могло устраивать пострадавшего.

Порядок, к которому мы переходим, давно существует во всех цивилизованных странах.

*С. САЛУГ.*
*("Деньги").*

